АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

29 КАСТРЫЧНІКА — 4 ЛІСТАПАДА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 35000 РУБЛЁЎ
№44 (236)

АСТРАВЕЦ

## Міліцыянераў агледзеў міністр

Упершыню мясцовы аддзел унутраных спраў наведаў міністр унутраных спраў. Генерал–лейтэнант **Юрый Сівакоў** праверыў стан аператыўна–службовай, службова–баявой, а таксама маральна–псіхалагічнай устойлівасці супрацоўнікаў міліцыі.

Нягледзячы на непрацяглы час знаходжання ў Астраўцы, Юрый Сівакоў пазнаёміўся з умовамі службы, агледзеў незавершаны будынак і правёў асабісты агляд – ад радавых міліцыянераў да кіраўнікоў аддзела.

Праходзіў ён незвычайна, бо, як зазначыў міністр, па рукапацісканні можна вызначыць фізічную падрыхтоўку, калі зазірнеш у вочы – маральныя якасці, а па знешнім выглядзе – стаўленне да выканання службовых абавязкаў.

Міністр застаўся задаволены сваімі падначаленымі ў Астраўцы. Начальніку райаддзела **Яраславу Халецкаму** прысвоена званне палкоўніка міліцыі, а начальнік кадравага апарату **Уладзімір Кабрын** узнагароджаны каштоўным падарункам. Таксама каштоўны падарунак атрымаў і старшыня выканкома **Мечыслаў Кудырка** – за дапамогу райаддзелу ў вырашэнні праблем.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Уладзімір Замяталін развівае фізкультуру

З удзелам віцэ–прэм'ера **У. Замяталіна** тут прайшло выязное пасяджэнне калегіі Міністэрства спорту і турызму. Абмеркавана пытанне аб практыцы работы па выкананні дзяржпраграмы развіцця фізкультуры, спорту і турызму на Смаргоншчыне.

Удзельнікі калегіі наведалі многія фізкультурна–спартыўныя аб'екты горада. Уладзімір Замяталін адзначыў:

– Мы збераглі ў прынцыпе сістэму развіцця фізкультуры і спорту ў рэспубліцы – збераглі адзіныя на прасторы былога саюза ССР, і трэба зрабіць усё, каб гэтая сістэма па–ранейшым працавала на нашага чалавека, і асабліва – на падрастаючае пакаленне.

*Аддзел інфармацыі.*

МЯДЗЕЛ

## Плыўцы выбіраюць Нарач

Гэтымі днямі на базе турысцка–экскурсійнага комплексу "Нарач" праводзіць трэніровачны збор нацыянальная зборная па плаванні.

Плыўцы выбіраюць гэтае месца не першы год. Яны спаўна ацанілі перавагі трэніровак і аднаўлення сіл сярод гаючай нарачанскай прыроды.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Якубовіч закахаўся ў віляйчанак

Інспектара дзяржпажнагляду **Алену Альфер** запрасілі ў Маскву на "Поле цудаў". Запіс праграмы адбудзецца ў гэтыя выхадныя, паказ па тэлебачанні – бліжэй да Новага года.

Алена стала ўжо трэцім вілейскім удзельнікам праграмы за 2 гады. Не інакш, як **Леанід Якубовіч** асабіста запрашае – надта мэтанакіравана атрымліваецца.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

***У краіне заканчваецца перыяд дзеяння «летняга часу». 31 кастрычніка ў 3.00 стрэлкі неабходна перавесці на 1 гадзіну назад. Таму не забудзьцеся зрабіць гэта ў нядзелю – перад тым, як класціся адпачываць.***

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 30 кастрычніка | | Нядзеля, 31 кастрычніка | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Ноччу | +3°C | +4°C | 0°C – -2°C | -2°C |
| Удзень | +3°C – +7°C | +8°C | +1°C – +8°C | +8°C |



# Мара стаць забойцам здзейснілася

***МАЛАДЗЕЧНА—ВІЛЕЙКА. У маляўнічым месцы ля аздараўленчага летніка "Лясны гарадок" вадалазы выратавальнай станцыі Вілейкі адшукалі прылады забойства — 2 ламы. Гэтае жалеза праламала галаву 70—гадовай жыхаркі Маладзечна Ларысы Нерушэўскай.***

Прылады забойства злачынцы запакавалі ў куртку і выкінулі ў Вілію ля Даманава.

Жанчыну забілі ноччу. 5 хлопцаў выцягнулі шыбу ў яе доме па вуліцы імя Капуцкага на выездзе з Маладзечна на Вілейку). Каля 10 хвілін, не тоячыся, у хаце адшуквалі грошы. Ведалі, што ў гаспадыні праблемы са слыхам. Гаспадар жа, рыбалоў–аматар, на ноч з'ехаў на рыбу.

У хаце знайшлі 600 нямецкіх марак, 4 долары ЗША і 75 мільёнаў беларускіх рублёў. На "справе" злачынцы не звярталі ўвагу на рэчы малазначныя. Напрыклад, гарэлачны бар у секцыі. У сям'і мала хто ўжываў спіртное. Таму яшчэ "андропаўкі" там было багата.

Нерушэўскія прадалі хату. Гаспадар – вязень германскіх канцлагераў. Атрымаў кампенсацыю ў марках.

Рэчавыя доказы вадалазы адшуквалі ўпершыню.

Вадалаз **Сяргей Дзяруга:**

– На дне бачнасць 10 сантыметраў. Шмат шкла ад пабітых бутэлек, пер'е ластавак, карчы.

А механіка адшукванне была такая: вадалаз **Васіль Саўчыц** "дзяжурыў" на тым беразе. Другі – **Міхаіл Гутнік** – на гэтым. У руках трымалі вяроўку з грузам. Вяроўка перасоўвалася па сектары пошуку. А Сяргей Дзяруга па ёй "працаваў" дно.

Пасляслоўе:

– Ведаеце, я даўно хацеў стаць прафесійным кілерам.

Мара здзейснілася. Затрыманыя дэталёва расказалі, як забівалі, "кідалі канцы" у ваду.



Падазроны ў забойстве, прыкаваны наручнікамі да міліцыянера, на беразе Віліі падчас пошукаў рэчавых доказаў злачынства ў мінулую сераду.
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Над справай аб забойстве працуюць начальнік крымінальнага вышуку Маладзечанскага ГРАУС **Георгій Поклад**, старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах **Юрый Шынгель**, старшы следчы пракуратуры **Аляксандр Азарэвіч**, старшы групы маралі **Міхаіл Глінскі**.

Толькі з другога заходу ў ваду вадалазы знайшлі рэчавыя доказы. У куртцы загорнутыя былі 2 ламы, маскі на твар, пальчаткі, фіранкі з вокнаў з бурымі плямамі. Таксама рэчы, якія злачынцам былі без патрэбы, – жалезныя пярсцёнкі. Двум падазроным – па 16–17 год, самаму старэйшаму – 22. Актыўны ўдзел у "паляванні" за грашыма ўзяў унук забітай.

Ёсць меркаванні, што "адчайныя" хлопцы мелі дачыненне і да іншых злачынстваў.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ВОСЕНЬ...

# Газу хапае, але не ўсім

МІНСК. Яшчэ на пачатку тыдня ў сталічнай вобласці было крытычным становішча з забеспячэннем насельніцтва газам у балонах. У некаторых месцах людзі не маглі набыць балон нават па камерцыйнай цане. Аналагічная сітуацыя складвалася і ў шматпавярховых дамах, дзе запас газу быў толькі на суткі.

Начальнік службы газазабеспячэння "Мінскаблгаза" **Леанід Гатавец** сказаў, што мінская газанапаўняльная станцыя пачала напаўненне звадкаваным газам балонаў. Кожны раён вобласці атрымае па 100–150 балонаў. Яны прызначаныя для выкарыстання ў "форс–мажорных" абставінах – пры пахаванні, наяўнасці хворых у сям'і і г. д.

Сітуацыя кардынальна не мяняецца, бо для нармальнага забеспячэння сталічнай вобласці штодня патрэбны каля 7 тысяч балонаў. А, прыкладам, Вілейка і Мядзел маюць патрэбу менавіта ў звадкаваным газе, а не прыродным. Для шматпавярховак рэзерв ёсць, але невялікі.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ. Крытычнай назвала сітуацыю з забеспячэннем насельніцтва газавымі балонамі начальнік Астравецкага цэха звадкаванага газу **Марыя Ігнатовіч**.

На сённяшні час склалася чарга ў 2900 абанентаў на замену газавых балонаў. Раней падобнае газавікі маглі ўявіць толькі ў самым страшным сне. На мінулым тыдні ў цэх звадкаванага газу завезлі 263 балоны, тады калі раней толькі штодня завозілі 224. Цяпер у першую чаргу балоны завозяцца ветэранам вайны, інвалідам, а таксама, па адпаведных даведках, на вяселлі і іншае.

Паляпшэння сітуацыі ў бліжэйшыя месяцы два чакаць не даводзіцца, а таму ёсць сэнс закупляць электрапліты. Але калі ўлічыць, што ўжо цяпер уведзеныя нормы спажывання электраэнергіі, то неўзабаве і яна можа стаць дэфіцытам, як газавыя балоны.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



Вілейка трыццатых. Будынак фінансавага упраўлення. Сёння тут месяцца дзве кафэшкі і адміністрацыя гархарчпрамганд–лю. Быў тут і рэстаран, і гасцініца. Побач – парк, які спускаецца да берагоў Віллі.

Узімку перад новым годам у двары гархарчпрамгандлю наладжваюць бойкі продаж ёлак. Летам жыццё сціхваецца. Хіба нейкі п"янчужка скандал учыніць – балазе, у кафэшцы заўсёды можна чарку перакуліць. Ды праімчыцца пад забараняльны знак на сваім аўто хтосьці з нашых новых. Колы фурманак па бруку ўжо не прагрымяць. Не таму, што коней ужо не запрагаюць, а ад таго, што брук даўно пакрыты слоем асфальту. І не адным. Як той нарасцю, якой пакрываецца наша памяць. Калі ўжо мы не можам згадаць, хто мы і адкуль.

*Мікола ГАЙДУК.*

ФОТА З НОВАЙ ЭКСПАЗІЦЫІ ВІЛЕЙСКАГА ГІСТОРЫКА–КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ.

ДАРОГІ

# Слізка... Машыны б'юцца...



*Маладзечна. Серада. Вялікі Гасцінец.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

НАШЫЯ ІНТЭРВ'Ю

# Фінальнае нешанцаванне,

## альбо Навука арыентавацца ў апошні момант

*Прадстаўляем Андрэя СТАНКЕВІЧА – гульца зборнай краіны па міні-футболе сярод слабавідушчых. Нагадаю, летась наша каманда стала чэмпіёнам свету, а на еўрапейскім першынстве, што нядаўна завяршылася ў Мінску, заваявала сярэбраныя ўзнагароды.*



*Маладзечанец Аляксей Філіпаў і валожынец Андрэй Станкевіч падчас кароткай перадышкі ў чарговым матчы чэмпіянату Еўропы ў Мінску.*

ФОТА З АРХІВА АЛЯКСЕЯ ФІЛІПАВА.

**– Андрэй, давайце адразу пра перыпетыі дамашняга чэмпіянату кантынента. Усе мы сталі сведкамі разгромных перамог зборнай над італьянцамі 7:1, расіянамі 4:0, французамі 10:1, іспанцамі 6:2, англічанамі 6:1, а вось у галоўным матчы, фінальным, нечаканае паражэнне 2:3 ад тых самых прадстаўнікоў Пірэнейскага паўвострава. Пытанне, якое хвалюе многіх: што здарылася з камандай?**

– Не ведаю, як і адказаць. Ну, не пайшоў мяч у вароты. Атакавалі шмат, а забіць доўга не атрымлівалася. У папярэдніх матчах выкладваліся на поўную сілу, бо гулялі ж перад сваімі балельшчыкамі, і да фіналу падышлі стомленыя. У некаторых хлопцаў былі траўмы. Калі прапускалі два першыя галы, то галкіперы не выратавалі. Вельмі граматна дзейнічалі сапернікі, якія абралі адзіна верны для перамогі варыянт гульні.

**– Параўнайце, калі ласка, гэты склад іспанцаў з тым, які беларусы здолелі перамагчы на мінулагоднім фінале ў Бразіліі.**

– Ад таго складу ў іх засталіся толькі тры чалавекі, ды і то не самыя моцныя, так што тая каманда выглядала лепш. Праўда, у Іспаніі шмат клубаў, гульцоў, ёсць з каго выбіраць. Наш козыр у стабільнасці складу, згулянасці хлопцаў.

**– Як ставіцеся да таго, што ўкраінцаў, якія прэтэндавалі на ўдзел у фінале, знялі са спаборніцтваў на папярэдняй стадыі?**

– Адмоўна. Калі яны не заплацілі ўступны ўзнос, дык ад самага пачатку не трэба было дапускаць. А здымаць па ходзе турніру вельмі некарэктна.

**– Не было цяжка гуляць у хакейнай каробцы?**

– Не, практычна тое ж было і ў Бразіліі. Нармальна, зручна. На гэтым самым пакрыцці з Палаца ва Уруччы мы трэніраваліся.

**– Раскажыце, як прайшоў гэты год для каманды, што яе чакае наперадзе.**

– У нас былі зборы кожны месяц, гулялі ў першай мініфутбольнай лізе, бралі ўдзел на турніры памяці Уладзіміра Карвата. У наступным годзе зноў пройдзе чэмпіянат свету – альбо ў Францыі, альбо ў Іспаніі. На Параалімпійскіх Гульнях міні-футбол прадстаўлены не будзе, аднак арганізатары плануюць правесці паказальны матч. Каго запросяць, невядома. Дзякуючы падтрымцы БелТІЗа, каманда не развалілася.

**– Закранем далікатную тэму. З тэлевізійных рэпартажаў мы даведаліся, што гульцы каманд маюць зрок не болей за 8%, гэта значыць, ім немагчыма ўбачыць нават самыя вялікія літары ў афтальмалагічнай табліцы. А як удаецца арыентавацца на пляцоўцы? На якой адлегласці відаць мяч, вароты? Наколькі дапамагаюць акуляры і лінзы?**

– Шмат залежыць ад асвятлення. Гэта галоўны фактар. Акуляры дапамагаюць не кожнаму, бо не ва ўсіх зрок мае магчымасць карыгіравацца. Ад сваіх варот чужыя ўбачыць вельмі складана, а непасрэдна ў гульні прыходзіцца арыентавацца ў самы апошні момант, калі мяч ужо побач.

**– Летась вас прызналі лепшым спартсменам Валожыншчыны. Раскажыце крыху пра сябе.**

– Пастаянна жыву ў Валожыне разам з маці і сястрою. Нарадзіўся ў 1974 годзе. Быў у маладзечанскай школе-інтэрнаце, дзе, натуральна, і пачаў займацца спортам. Вучыўся ў палітэхнікуме. Сёлета я, як і двое партнёраў па камандзе, паступіў у акадэмію фізвыхавання на кафедру футбола. Будзем у будучым развіваць наш від спорту па ўсёй краіне.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

ЗАХАПЛЕННІ

# Віляйчанін авіятар Аляксандр Кляшняк напісаў кнігу пра касманаўтыку

*ВІЛЕЙКА. Яго кніга складаецца з 600 рукапісных старонак. Мае фундаментальныя па змесце раздзелы. Напрыклад, "Пілатуемыя палёты", "Праграма "Энергія–Буран". Аўтар піша і пра малавядомыя факты: раздзел "Палёты, якіх не было". А. Кляшняк – не вучоны-самавучка, а прафесіянал – былы авіятар, маёр у адстаўцы. І, самае галоўнае, чалавек, які з дзяцінства "хварэў" на касманаўтыку. Аляксандр скончыў Калінінградскае ваеннае авіяцыйна–тэхнічнае вучылішча, Курганскае вышэйшае ваенна–палітычнае. Служыў у Прыбалтыйскай, Уральскай, Беларускай ваенных акругах.*

З 6 класа Аляксандр збіраў фотаздымкі касманаўтаў, выразкі з газет. Сёння ў яго калекцыі 47 аўтографаў тых, хто пабываў у космасе, – амаль усе іх Аляксандр Кляшняк атрымаў па перапісцы. Пасля вяртання касманаўта з палёту пісаў яму ліст, маўляў, з удалым вяртаннем на Зямлю. Так завязваліся кантакты.

Яны працягваюцца і цяпер. Аляксандр Калеры з цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў "Звёздный городок" заўсёды паведамляе пра будучыя палёты, экіпажы. Яшчэ год з 10 таму за распаўюджванне такіх звестак камітэт дзяржбяспекі няшчадна б караў.

**– Прывядзіце прыклад таго, што вядома не ўсім?**

– Калі ласка, усе ведаюць, што Уладзімір Джанібекаў пяць разоў лятаў у космас. Але прозвішча яго на самай справе Крысін. А Джанібекава – ягоная жонка.

**– Былі, зразумела, нейкія незапланаваныя моманты палётаў, якія ў свой час не трапілі на старонкі газет. Раскажыце пра што–небудзь.**

– У кастрычніку 1976 года экіпаж "Саюза–23" (Вячаслаў Зудаў і Валерый Раждзественскі) пасля палёту сеў на возера Тэнгіс у Казахстане. А павінен быў – на цвёрды грунт у строга запланаваным месцы. Панаехала чыноўнікаў з Масквы. 6 верталётаў грэлі маторы. А апарат быццам знік. Надвор'е кепскае, туман, бачнасці амаль ніякай. Усе ў разгубленасці. Многія думалі, калі што – паляцяць галовы генеральскія. Верталётчык Мікалай Чарняўскі па сваёй ініцыятыве на лодцы пачаў аб'язджаць возера і сутыкнуўся з апаратам. Узабраўся на яго, пагрукаў, маўляў, вы знойдзеныя, не хвалюйцеся. 11 гадзін лётчык з касманаўтамі праплавалі. А калі надвор'е ўсталявалася больш–менш і ўзняліся верталёты, Мікалай Чарняўскі прыцягнуў іх увагу. Свавольнасць верталётчыка ледзь не каштавала яму ваеннай кар'еры.



*Аляксандр Кляшняк.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

**– А часцяком у касманаўтыцы парушаюць інструкцыі?**

– Толькі ў самых крытычных выпадках. У красавіку 1975 года стартавалі Алег Макараў і Васіль Лазараў. Аднак іх карабель пайшоў не на арбіту, а да зямлі. Касманаўты катапультаваліся. Апускаемы апарат вынесла ў Алтай. Ён мякка сеў. Парашут накрыў сасну. Па інструкцыі, касманаўты адразу павінны былі вызваліцца ад парашута, яго "адстрэліць". Аднак хлопцы спачатку выглянулі з апарата. Той вісеў над цяснінай. Яны не разбіліся, толькі дзякуючы парашуту.

**– З кім з касманаўтаў вы непасрэдна сустракаліся, размаўлялі?**

– З Барысам Валынавым, Георгіем Шонінам, Паўлам Паповічам, Валерыем Быкоўскім, Васілём Лазаравым. А з Юрыем Арцюхіным мы разам і выпівалі.

**– Пра смерці касманаўтаў пісалі многія газеты. Напэўна, нейкія факты не трапілі ў друк?**

– Я сачу за артыкуламі, аднак некаторыя факты і не сустрэў. У кастрычніку 1967 года загінуў Уладзімір Камароў. Калі ягоны апарат садзіўся на зямлю, запасны парашут абвіўся вакол нераскрытага асноўнага. Камароў падаў з хуткасцю 144 кіламетры ў гадзіну (???). У чэрвені 1971 года загінуў экіпаж Георгія Дабравольскага, Уладзіслава Воўкава і Віктара Пацаева. Прычына – разгерметызацыя апускаемага апарата. З гагарынскага прызыву загінуў Валянцін Бандарэнка. У час падрыхтоўкі да палёту трэба было 10 сутак праседзець у сурдабаракамеры ў абсалютнай цішыні. Валянцін зняў адзін адзін з датчыкаў, месца на целе працёр ваткай са спіртам (па інструкцыі), аднак ватку чамусьці кінуў на электраплітку. Узнік пажар. Касманаўт імкнуўся сам збіць полымя...

**– На ваш погляд, чаму амерыканцы першыя высадзіліся на Месяцы?**

– Я лічу, што, калі б на той час кіраваў Мікіта Хрушчоў і жыў яшчэ Каралёў, на Месяцы мы былі б першыя.

**– Сёння існуе шмат версій гібелі Юрыя Гагарына. Вы якой прытрымліваецеся?**

– Пра нейкія глупствы, накшталт таго, што яго паланілі іншапланецяне, я наогул не хачу гаварыць. Па ўспамінах яго сяброў, Юрый быў звычайны чалавек, і, як гавораць, нічога чалавечага ён не цураўся. І выпіць мог. Не без гэтага.

**– Што тычыцца вашай кнігі, калі вы над ёю пачалі працаваць?**

– Назбіраны матэрыял я пачаў абагульняць шэсць год таму. Матэрыял пра палёты касманаўтаў дапаўняў з выкарыстаннем сваіх крыніц.

**– Вас жартам называюць "хадзячай энцыклапедыяй касманаўтыкі". Няўжо вы сапраўды ўсё ведаеце?**

– Усё ведаць немагчыма. Аднак...

**– Вось я вас праэкзаменую. Колькі касманаўтаў пабывала ў космасе і на якіх караблях?**

– 91 касманаўт. 6 палётаў было на "Востоках", 2 – на "Восходах", 38 – на "Союзах", 14 – на "Союзах Т" і 28 – на "Союзах ТМ".

**– Ну, а што тычыцца канкрэтных дат?**

– Без праблемаў. Толькі вы штосьці на гадзіннік пагглядаеце.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

БЕСПРАЦОЎЕ

# Скарачэнне рабочых месцаў на "Зеніце" працягнецца

*ВІЛЕЙКА. Колькасць работнікаў завода "Зеніт" да новага года скароціцца да 1,5 тысячы. Гэта будзе суадносіцца з аб'ёмам вытворчасці. Так рабіць прапануе галоўнае прадпрыемства — сталічны завод імя Вавілава.*

Ад пачатку года з "Зеніта" звольніліся 393 чалавекі. Больш за палову – па скарачэнні штатай адзінкі. Выпраўляючы за вароты сваіх работнікаў, адміністрацыя гіганта мясцовага значэння набірае вучняў на спецыяльнасці токара, станочніка, шліфавальшчыка. Парадаксальная сітуацыя тлумачыцца проста: самыя высокакваліфікаваныя рабочыя даўно самі разышліся, бо не задавальнялі заработкі.

У раёна яшчэ адзін галаўны боль – сітуацыя на шклозаводзе «Залессе» у пасёлку Партызанскі. З мая завод не працуе, а яго работнікі (350 чалавек) знаходзяцца ў адпачынку за свой кошт.

**– Як у такой складанай сітуацыі працуе рэгіянальны цэнтр занятасці?** – пытаюся ў загадчыцы цэнтра **Валянціны Валатовіч**.

– Сёлета ў паўтара раза больш, чым за такі ж леташні перыяд, зарэгістравана беспрацоўных. На 1 кастрычніка іх 477 чалавек. Каля 90% – жанчыны. Ну, а ўсяго ад пачатку года зарэгістравана 835 чалавек. Як бачыце, працаўладкоўваем. 530 сёлетніх і леташніх за 9 апошніх месяцаў.

**– Цэнтр занятасці выступае як статыстык? Некага скарацілі – да вас на ўлік станавіцца прыйшоў. Нейкаму прадпрыемству работнік патрабуецца. Вось так і зводзіце работніка і работадаўцу?**

– Мы не толькі зводзім абодва бакі з выкарыстаннем банка дадзеных. Мы адкрываем новыя рабочыя месцы, бясплатна перанавучаем людзей. Напрыклад, з дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці выдаткавалі раённаму камбінату бытавога абслугоўвання насельніцтва 3 мільярды рублёў, Ільянскаму камбінату кааператыўнай прамысловасці – 4 мільярды. Грошы пайшлі і на развіццё вытворчасці і на стварэнне новых рабочых месцаў. Ужо 25 чалавек уладкаваліся на гэтыя прадпрыемствы. Сёлета 91 накіраваны на перанавучанне. З іх ужо 30 уладкавана. Як відаць, памылкова лічыць, што цэнтр занятасці толькі падлікам і займаецца.

**– Чуў, што "баслаўляеце" людзей на прадпрымальніцкую дзейнасць.**

– Зразумела, мы зацікаўленыя, каб людзі мелі сваю справу і самі сябе забяспечвалі. Напрыклад, чатыром мы не толькі аплацілі рэгістрацыю і атрыманне пасведчання прадпрымальніка, але і выдзелілі субсідыю – так званы пачатковы капітал.

**– Вашая работа нейкім чынам падобная на работу ўрача. Па дапамогу прыходзяць людзі, прыносяць свой боль. Бывае, што сэрца сціскаецца?**

– Штодзень. Сёння адной жанчынцы кажу: "Прыходзьце праз 2–3 дні. Абавязкова вам дапаможам". А яна: "Няўжо мяне не прагоніце?" Ёсць людзі, якія дайшлі да мяжы адчаю. Лічу, што нашым цэнтрам занятасці ў штаце абавязкова патрэбны псіхолаг.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ДЭНАМІНАЦЫЯ

# Курс долара знізіцца да тысячы. Пасля дэнамінацыі

*Спецыялісты валютнага рынку каменціруюць указ аб правядзенні дэнамінацыі беларускага рубля.*

Былы старшыня праўлення Нацбанка **Станіслаў Багданкевіч** гаворыць, што, калі з тэхнічнага пункту погляду гэтае рашэнне можна неяк апраўдаць, то з эканамічнага яно з'яўляецца "абсалютным глупствам". Любая грашовая рэформа "базіруецца на стабілізацыі эканомікі, збалансаванні попыту і прапановы, перамозе над інфляцыяй, спыненні абвалу нацыянальнай валюты". Гэтыя праблемы ўлада не можа адолець і таму пайшла па шляху найменшага супраціўлення, лічыць С. Багданкевіч. "Вядома, курс адзін мільён рублёў за долар ЗША значна больш гаворыць насельніцтву пра наступствы эканамічнай палітыкі дзяржавы, чым тысяча рублёў, хаця зарплаты зменшацца ў гэткай жа прапорцыі. Аднак як бы не давялося пры цяперашніх тэмпах інфляцыі праз пару год зноў дэнамінаваць беларускую валюту", – адзначыў ён.

– Колькі-небудзь асэнсаваная дэнамінацыя магчымая толькі пры радыкальнай змене эканамічнага і знешнепалітычнага курсу краіны, – гаворыць віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў **Аляксандр Патупа**. – Вельмі дарагая аперацыя па замене грошай мае сэнс тады, калі ёсць шанц стабілізаваць грашовую адзінку, а пакуль колькі-небудзь сур'ёзных ідэй па доўгатэрміновай стабілізацыі не відаць. Баюся, ўсё звядзецца да вельмі стратнай агітпрапаўскай аперацыі: ліквідаваць у бытавым абароце ўсе гэтыя мільёны з мільярдамі, якія відавочна і паўсядзённа дэманструюць бяссілле кіруючай ўлады, каб усяляк падкрэсліць, што гэта дзейства ляжыць у рэчышчы інтэграцыі з Расіяй, і гучна абнадзеіць просты народ праектам прывязкі новага "зайца" да еўрапейскай грашовай адзінкі "еўра", ад чаго ён – новы "заяц" – без прамаруджвання стабілізуецца.

Калі гадавы валавы ўнутраны прадукт краіны павінен скласці каля двух квадрыльёнаў рублёў (квадрыльён – гэта тысяча трыльёнаў або мільён мільярдаў) – гэта выглядае анекдатычна. А. Патупа лічыць, што ў гэтых велізарных лічбах – гісторыя беларускай гіперінфляцыі, якая цяпер, у сярэднім, перавышае 110% у месяц. Апошнія гады цэны, у сярэднім, штогод павышаюцца ўтрая.

– Правядзенне дэнамінацыі беларускага рубля будзе садзейнічаць умацаванню нацыянальнай валюты, павелічэнню яе пакупніцкай здольнасці, – заявіў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі **Пётр Пракаповіч.** Паводле ягоных слоў, рашэнне аб правядзенні дэнамінацыі прымалася, зыходзячы з планаў па стабілізацыі беларускага рубля, пажаданняў людзей, неабходнасці спрашчэння разлікаў. Ён адзначыў, што для грамадзян гэты працэс павінен прайсці абсалютна безбалюча і не адаб'ецца на росце цэн. П. Пракаповіч паведаміў, што друкаванне купюр старога ўзору спынілася месяц таму, пасля чаго выпускаюцца толькі новыя грошы, якія, дарэчы, друкуюцца ў Расіі.

Доктар эканамічных навук, прафесар **Уладзімір Кулажанка** нагадвае, што грашовыя рэформы праз дэнамінацыю ў свой час былі праведзеныя амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах. Аднак яны ажыццяўляліся пасля стабілізацыі эканомікі ці тады, калі праз рэформы былі дасягнутыя пазітыўныя зрухі ў эканоміцы. Будучая грашовая рэформа, з-за яе абмежаванасці і непадрыхтаванасці, не можа быць апошняй.

## Камуністы супраць

Кіраўніцтва Партыі камуністаў Беларускай (ПКБ) лічыць, што дэнамінацыя, якая мае адбыцца, "з'яўляецца калі не дыверсіяй па канчатковым падрыве эканомікі, то чарговай непрадуманай авантурай з непрадказальнымі эканамічнымі і палітычнымі наступствамі". Ва ўмовах імклівага падзення беларускага рубля змяненне намінальнага кошту грашовай адзінкі, акрамя "пазбаўленага сэнсу дадатковага расходавання мізэрных валютных рэзерваў дзяржавы", справакуе новы ўсплёск росту цэн і яшчэ больш рэзкае зніжэнне ўзроўню жыцця грамадзян.

ПКБ заклікае беларускія ўлады "пакуль не позна" адмовіцца ад правядзення дэнамінацыі і прадпрыняць эфектыўныя, навукова абгрунтаваныя захады па ўмацаванні грашовай сістэмы краіны.

## На "чорным рынку"

Аператары "чорнага" валютнага рынку, ў большасці сваёй, стрымана паставіліся да дэнамінацыі, што мае адбыцца.

Як і раней, яны змушаныя будуць цягаць сумкі з наяўнымі грашыма – павелічэнне наміналу грашовых знакаў не прадугледжваецца. Праўда, кліенты псіхалагічна лягчэй будуць успрымаць зрухі курсу. Адна справа, калі ён узрастае або зніжаецца на дзесяць тысяч рублёў (і ўсе пра гэта гавораць), іншая — калі змяняецца на дзесяць рублёў (і амаль ніхто гэтага не заўважае).

## Жыхар рэгёна

Дэнамінацыя, безумоўна, аблегчыць разлікі, бо лічыльныя машыны проста не вытрымліваюць такой колькасці нулёў. Змяншэнне намінальнай вартасці грашовых знакаў і маштабу цэн у 1000 разоў прымальнае і для людзей, і для прадпрыемстваў. Відавочна, што і банкаўская сістэма была падрыхтаваныя да дэнамінацыі – усе балансы ды разлікі кратныя тысячы.

Сама па сабе грашовая рэформа праз дэнамінацыю, напэўна, апраўданая. Пры закрэсліванні трох нулёў на купюрах адразу знікаюць мільянеры–жабракі, але ўзнікае пытанне: навошта тады сёлета выпускалі мільённыя, а два месяцы таму і 5–мільённыя купюры?

Можна чакаць, што гэтае рашэнне выкліча паскарэнне падзення рынкавага курсу беларускага рубля да замежных валют. Людзі не зважаюць на фармулёўкі ўказа ды заспакаенні чыноўнікаў, яны, практычна, не даваяраюць дзяржаве і памкнуцца перавесці наяўнасць у больш надзейную валюту.

*Аддзел інфармацыі «РГ», БелаПАН.*

КАМЕНТАРЫЙ "РГ"

# Новыя грошы для старой эканомікі

Дэнамінацыя закліканая захаваць беларускі рубель, падняць давер да яго з боку насельніцтва і магчымых інвестараў. Бо на сённяшні дзень самай буйной грашовай купюры Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь у 5000000 рублёў хопіць, каб купіць усяго 7 амерыканскіх долараў.

У жніўні 1994 у краіне была дэнамінацыя ў 10 разоў, чаго хапіла ўсяго на некалькі год. З мінулага года дэнамінацыя правялі ў суседняй Расіі – усе цэны і грошы патаннелі ў 1000 разоў. Падобна, яна была не апошняя – парламенцкая і прэзідэнцкая передвыбарная суматоха змятуць перашкоды на шляху інфляцыі, і цэны зноў зашкаляць за пяцізначны бар'ер.

Чаго чакаць беларусам? Дэнамінацыя вырашыць толькі чыста тэхнічную праблему – звузяцца калонкі лічбаў, будзе лягчэй глядзець на цэннікі ў магазінах. Хаця змяншаць цэны варта было б не ў 1000, а ў 100000 разоў. Каб долар каштаваў 7–10 рублёў сёння–заўтра. А на працягу наступнага года рубель можна было б апусціць яшчэ разоў у пяць, да 50 рублёў за долар. Тады беларускі рубель зраўняўся б з расійскім і можна было б канкрэтна весці "славянскія базары" пра інтэграцыю.

Нашай эканоміцы, хутчэй, патрэбныя не новыя грошы, а новыя падыходы да здзяйснення рэальных рэформаў: прыватызацыі, рэструктурызацыі, лібералізацыі і канкурэнцыі. Паняцці ўсе іншаземныя, імі, нароўні з дэмакратыяй, палохаюць народ ужо каторы год. Аднак тэрміны "дэфолт", "карупцыя", "прастытуцыя", "рэвалюцыя", "экспрапрыяцыя", "нацыяналізацыя", як і прапануемая ўладамі "дэнамінацыя" – таксама маюць заходняе паходжанне, але даўно прыжыліся і нават расквітнелі на нашай зямлі.

*М. АЛЕКСАНДРОВІЧ.*

КУРСЫ ВАЛЮТ

## Курсы валют НБ РБ

| | 21 кастрычніка | 28 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар | 298 000,00 руб. | 300 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 165 034,13 руб. | 162 905,26 руб. |
| Літ | 74 479,52 руб. | 74 981,25 руб. |
| Рас. руб. | 11 530,00 руб. | 11 680,00 руб. |
| Злоты | 72 567,88 руб. | 71 830,45 руб. |
| ЕЎРА | 322 778,70 руб. | 318 615,00 руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

Долар ........ 650 000–700 000 руб. ..... 690 000–740 000 руб.

ЦЭНЫ НА ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) 20.10 | 27.10 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 740 | 740 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | – | 2700 |
| Сасіскі | 1 кг | 945 | 795 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 590 | 610 |
| Рыс | 1 кг | 400 | 420 |
| Грэчка | 1 кг | 520 | 540 |
| Цукар | 1 кг | 240 | 240 |
| Алей | 1 л | 580 | 630 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 200 | 217 |
| Маянэз | 250 г | 90 | 90 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 650 | 750 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | 270 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 190 | 200 |
| Лімоны | 1кг | 550 | 630 |
| Кавун | 1 кг | 80 | 80 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 130 | 150 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 320 | 300 |
| Масла | 1 кг | 1000 | 1000 |
| Тварог | 1 кг | 350 | 400 |
| Малако | 1,5 л | 120 | 130 |
| Бульба | вял.вядро | 400 | 500 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 260 | 250 |
| Яблыкі | 1 кг | 100-150 | 180-200 |
| Капуста | 1 кг | 50 | 40 |
| Морква | 1 кг | 140 | 140 |



КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Палымяная вечарынка

ВАЛОЖЫН. У мінулую пятніцу ў мясцовую вёску Галабурды наведаліся пяць хлопцаў і чатыры дзяўчыны са сталічнага мікрараёна Кунцаўшчына. Трое з іх пакінулі там свае жыцці.

Моладзь прыехала сюды "адпачыць". У пустуючым доме перш–наперш распалілі печку. Адтуліны ў ёй "зашпаклявалі" радном. Пасля чаго наладзілі застолле са спіртным.

Першай пажар а сёмай гадзіне раніцы заўважыла адна з дзяўчынак. Суседзі выклікалі пажарных, але два хлопцы і дзяўчына–адзінаццацікласніца атруціліся чадным газам.

Пажарныя лічаць, што полымя ўзнікла з-за парушэння правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі печы.

*Аддзел інфармацыі.*

## Неспакойная ноч для жанчын

МАЛАДЗЕЧНА–ВІЛЕЙКА. У 3 гадзіны 45 хвілін 25 кастрычніка ў Маладзечанскі АУС на транспарце паступіла паведамленне ад дзяжурнага па станцыі Вілейка: грузавым цягнікам траўміраваная жанчына.

Пацярпелую на машыне "хуткай дапамогі" даставілі ў бальніцу, дзе жанчына ад атрыманых траўмаў памерла. Асоба яе ўдакладняецца.

Больш "удалай" аказалася сустрэча з грузавым саставам на станцыі Маладзечна для грамадзянкі Н. Жанчына таксама вырашыла перабегчы чыгуначныя пуці перад цягніком, які набліжаўся. У выніку яе таксама на машыне хуткай дапамогі даставілі ў медыцынскую ўстанову.

Дзеля чаго жанчыны, захавальніцы дамашняга ачага і ўтульнасці, рызыкуюць сваімі жыццямі, здароўем?

*Сяргей ВАСІЛЕВІЧ.*

## Смаргонцы затрымалі кантрабанду

СМАРГОНЬ. У аўторак памежнікі Смаргонскага пагранічнага атрада затрымалі буйную партыю кантрабанды - шкуркі норкі.

Пры афармленні ў пункце пропуску «Каменны Лог» рэйсавага аўтобуса «Каўнас-Мінск» памежны атрад выявіў у ім незадэклараваныя 524 шкуркі норкі, а таксама некалькі вырабаў з футра пясца. Гаспадара кантрабанднага грузу ўстанавіць не ўдалося.

Шкуркі і вырабы з футра памежнікі перадалі ў мытныя органы, дзе будзе праведзеная ацэнка. Сума можа аказацца ўнушальнай, бо 52 шкуркі норкі, знойдзеныя памежнікамі ў сярэдзіне месяца, былі ацэненыя прыкладна ў 370 мільёнаў рублёў.

*Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.*

*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Крыжаванка

ад Ірыны Буцер, Маладзечна




**Па гарызанталях:** 1. Мяшочак для табакі. 4. Дзяржаўная маёмасць. 8. Коннік. 9. Жывапісны ўзор. 12. Місія. 13. Выкапень: кавалак металу. 14. Сапраўдны выпадак. 17. Наркатычны сродак. 18. Чарцёж зямной паверхні. 19. Цвёрдая папера. 22. Абаронца ў судзе. 23. Хаос, стыхійнасць. 26. Спаборніцтва. 27. Мужчынскі голас. 30. Рыцарскае спаборніцтва. 31. Месцажыхарства. 32. Адміністрацыйна–тэрытарыяльная адзінка. 36. Раўнамернае чарганне. 37. Муніцыпалітэт. 38. Напор. 41. Невялікі абрус для накрывання століка. 42. Аэрастат для палёту ў стратасферу. 43. Бурштын. 44. Вельмі непрыемнае, гадлівае пачуццё.

**Па вертыкалях:** 1. Група коннікаў. 2. Выкананне музычнага твора адным чалавекам. 3. Пасудзіна для падтрымання пастаяннай тэмпературы. 4. Пірат. 5. Абман. 6. Старадаўняя зброя, сякерка. 7. Кавалак асмаленага дрэва. 8. Затычка для бутэлек. 10. Вялікі кіпяцільнік. 11. Перакрыжаванне дарог. 15. Сукупнасць міфаў. 16. Беспрынцыповы чалавек. 20. Металічная пласціна для расцірання гароднiны. 21. Доўгая вяроўка для лоўлі жывёл. 24. Ніжэйшы чын павятовай паліцыі. 25. Лясное пчалярства. 28. Вялікі музычны твор для хору, спевакоў, аркестра. 29. Старажытны ўрачысты верш. 30. Ледзяная глыба ў палярных морах. 33. Рад бярвенняў. 34. Удзельнік банка. 35. Пасяджэнне для сумеснага абмеркавання. 39. Вялікае свята. 40. Рычаговыя вагі.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў нумары 43.

**Па гарызанталях:** 5. Дабытак. 8. Скала. 9. Аванс. 13. Акоп. 16. Сага. 18. Указ. 19. Кат. 21. Сава. 22. Эфір. 23. Гамак. 25. Баба. 26. Атам. 27. Ложа. 28. Трап. 30. Кісет. 32. Гара. 34. Алей. 35. Нар. 36. Чары. 37. Скіт. 40. Жыта. 41. Наватар. 45. Іліко. 46. Агата. 47. Шарабан.

**Па вертыкалях:** 1. Удар. 2. Абат. 3. Штат. 4. Ікар. 6. Алах. 7. Авал. 8. Скокі. 10. Слава. 12. Адам. 14. Куфэрак. 15. Парапет. 16. Сабатаж. 17. Габарыт. 19. Камін. 20. Талер. 23. Гак. 24. Кот. 29. Алібі. 31. Саха. 33. Арына. 38. Рака. 39. Нага. 41. Ніша. 42. Ворс. 43. Табу. 44. Ранг.

## Яна і ты

**Мужчына**, які дабіўся поспеху, – гэта той, хто зарабляе грошай болей, чым можа патраціць яго жонка.

**Жанчына**, якая дабілася поспеху, – гэта тая, што змагла знайсці такога мужчыну.

*ПРОСТА АНЕКДОТ*

Да адэсіта падыходзіць прыезджы з чамаданам у руках.

– Скажыце, калі я пайду па вось гэтай вуліцы, там будзе чыгуначны вакзал?

– Ведаеце, ён там будзе, нават калі вы туды не пойдзеце!

* * *

У расійскім секс–шопе:

– А гэта наш аддзел для садамазахістаў. Калі ласка – нагайкі, кайданкі, бранзалеты з шыпамі... І, нарэшце, наш эксклюзіў – відэакасеты з футбольнымі матчамі Расія–Украіна і «Спартак» – «Вілем II».

*ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ*

## Чаму шэптам?

Гісторыю зноў расказалі знаёмыя камп‘ютэршчыкі.

Субота, але ў іхняй "канторы" – рабочы дзень. Тэлефонны званок. Жаночы голас (шэптам):

– Алё...

– Слухаем вас!

– Я ўчора ў вас камп‘ютэр купляла...

– І?

– Вось ён зламаўся, вы можаце адрамантаваць?

– Гаварыце гучней, вас не чуваць!

– Гучней не магу, муж пачуе – заб‘е.

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## Закляцце

Бабуля Тэкля вельмі добра гаспадарыла на сваім агародзе. Раней, чым у суседзяў, у яе з'яўляліся чырвоныя памідоры, агуркі, цвёрдыя качаны капусты. А колькі розных кветак тут расло, дагледжаных руплівымі і ўмелымі рукамі гаспадыні!

Іншы раз чуеш:

– Бабуля, якія прыгожыя ў цябе агуркі!

– Наш калгасны аграном–агароднік не можа дабіцца такога ўраджаю цыбулі.

– Бабуля Тэкля, навошта так цяжка працуеш, паехала б у горад да сыноў і ўнукаў.

Старая кабета не першы раз слухала пахвалу, парады і суседзяў, і незнаёмых людзей.

Усім адказвала:

– Сакрэтаў у мяне ніякіх няма. Трэба любіць зямлю, тады яна аддзячыць чалавеку.

Заўважыў, што жанчына пасля ўсіх пахвал, захапленняў быццам шэпча нейкія словы.

Пасля неаднаразовых маіх просьбаў растлумачыць, што шэпчуць яе вусны, бабуля Тэкля не вытрымала і сказала:

– Адчуваю зайздрасць некаторых людзей. Вось і шапчу ў іх адрас: "Соль у вочы, галавешка ў зубы". Не ведаю, ці дапамагаюць гэтыя словы пазбавіцца сурокаў, але так вучыла мяне шаптаць мая бабуля, якая пражыла да ста год, не цуралася працы. Раю і табе карыстацца такім закляццем. Трэба ў думках адганяць зайздроснікаў, падхалімаў.

А што? Калі хто палічыць, што атрымаю за расказаную вышэй гісторыю нядрэнны ганарар, няхай яму будзе соль у вочы, галавешка ў зубы.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

*ІМЯ*

# Барыс Грабеншчыкоў любіць Лондан і Катманду

*Пачатак інтэрв‘ю з Б. Грабеншчыковым – у папярэднім нумары.*

– **З камп'ютэрнай музыкай не эксперыментавалі?**

– У вёсцы мне захацелася спець суседу песню, якую ён раней не слухаў... Бо камп'ютэрная музыка – таўшчынёй у мікрафон. На паверхні. А ў глыбіні жыццё. Увогуле, я проста не ведаю, што калі мне даць у рукі гітару, я магу сёе–тое праспяваць канкрэтным людзям.

– **Вы чалавек, які п'е?**

– П'ю шмат, хаця магу намнога менш. Добра разбіраюся ў моцных алкагольных напоях і калекцыяную адчуванні... Галоўнае – ніколі не даходзіць да крайнасці. Не пераступіць мяжу. Калі што выйшла – добра. Але цяпер уставай, абуджайся, прыводзь сябе ў парадак. Многіх людзей апаноўвае лянота да такіх спраў, прасцей выпіць яшчэ. А гэта ўжо будзе білет на цягнік, які не вяртаецца.

– **Вы лічыце сябе адзінокім?**

– Так, і гэта добра. Проста я ведаю людзей, з якімі я магу паразмаўляць, як з роўнымі сабе. На мой погляд, патрэбнае ўзаемаразуменне, адзінства ж разумення увогуле не патрэбнае. Ёсць людзі, з якімі я адчуваю сябе на роўных. З імі добра, але ж стасункі з імі з'яўляюцца абавязковымі. Ты ўсяго раз з чалавекам сустрэўся, а потым канал застаецца адкрытым, і ты можаш праз дваццаць год патэлефанаваць яму. Хаця мне ніколі не бывае так цяжка, каб захацелася з кім–небудзь падзяліцца, перакласці частку праблемы на каго–небудзь. У мяне ёсць жонка, якая ў маёй сістэме – аптымальнае кола. А таксама ёсць група. Кожнаму з яе можна затэлефанаваць і паразмаўляць. І хаця яны не заўсёды могуць зразумець, пра што ідзе гаворка, але ўсё ж адно становіцца лягчэй.

*Падрыхтаваў Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*

*ВАНДРОЎКІ*

# Амаль усе міліцыянеры – палкоўнікі!

***Гэтую гісторыю мне паведаў знаёмы, якому давялося "ваяваць" з цырандоем, ці, дакладней, быць інструктарам у вучэбным лагеры ў Ташкенце ў афганскіх міліцыянераў.***

У яго задачу ўваходзіла больш усміхацца і менш звяртаць увагу на асаблівасці нацыянальных паводзінаў. А іх хапала, і нават занадта. Амаль усе міліцыянеры (некалькі соцень) былі палкоўнікі. Узнікае пытанне: колькі ж палкоў было ў афганскай міліцыі?

І вось адказ: быць капітанам ці маёрам лічылася непрэстыжным. Тым не менш, у кожным узводзе быў маладзенькі сімпатычны сяржант, які ўдалечыні ад дома замяняў жанчыну: гатаваў, мыў, прыбіраў і г. д. Нягледзячы на тое, што амаль усе міліцыянеры былі камуністы, яны, як прававерныя мусульмане, штодня маліліся Алаху.

І яшчэ, бадай, усе афганцы – гэта гандляры. У той далёкі 1987 год яны прывозілі джынсы, магнітафоны, касметыку. Кожныя выхадныя яны выязджалі з вучэбнага гарадка за некалькі кіламетраў на рынак у Ташкент. Іх вельмі "дурылі", скуплялі за бясцэнак ці нават за латарэі ДОСААФ іх тавар. З–за гэтага і ўзнік інцыдэнт, які ніколі не асвятлялі савецкія сродкі масавай інфармацыі.

На рынку ўзбек узяў у афганца памераць джынсы і знік. Афганец пачаў шукаць яго, быццам бы пазнаў у гандляры курдзючным салам, схапіў кавалак сала (як бы ў аплату джынсаў) – і атрымаў абухом па галаве.

Пасля гэтага здарэння міліцыянеры рушылі па дапамогу. Праз якую гадзіну на Ташкент рухалася калона бронетэхнікі з поўным боекамплектам. На абарону горада паднялі ўнутраныя войскі.

Ніхто не ведае, чым бы ўсё скончылася, але дапамог выпадак. Ноччу здараліся маразы, таму салдаты (савецкія) злівалі ваду з радыятараў. Пра гэта не ведалі палкоўнікі "цырандоя": за кіламетр ад Ташкента рухавікі перагрэліся і пачалі "клініць". Калона спынілася. Пасля перагавораў канфлікт удалося замяць.

## Зірвак

А ўсё пачалося з–за штаноў і кавалка курдзючнага сала. Навошта штаны, вы ведаеце, а вось што рабіць з курдзючным салам (калі яно ў вас бывае), я вас навучу.

Вазьміце чыгунны (абавязкова) посуд, калі яго няма – нават не бярыцеся за прыгатаванне. Добра нагрэйце посуд, наліце алею на два пальцы і накаліце яго на слабым агні, пакуль не з'явіцца белы дымок. Дадайце курдзючнага сала (з бараніны), калі няма, можна дадаць свінога ці ялавічнага тлушчу, лепей, у камбінацыі.

Цяпер гатуецца зірвак. Апусціце ў посуд кавалкі мяса: бараніну, свініну, ялавічыну ці гусяціну. Што ёсць. Потым нарэжце кольцамі цыбулю, каб поўнасцю пакрыла мяса. Здзярыце на буйную тарку моркву, каб з–пад яе не было відаць цыбулю. Дадайце чырвоны перац, ажгон, барбарыс, якія прадаюцца на рынку ў Ждановічах і на Камароўцы, соль. Варыць хвілін 20.

Цяпер акуратна засыпаць рыс, не змешваць з зірвакам, заліць гарачай вадой, каб рыс пакрыўся на 1 сантыметр. Крыху пасаліць і дадаць некалькі зубкоў часнаку (не рэзаць). Варыць да гатоўнасці, пры гэтым час ад часу даліваць ваду.

Рыс атрымліваецца рассыпісты, трошкі жаўтаваты. Ён смачны нават без мяса. У талерку горкай накладваецца рыс, па крузе – морква з цыбуляй, у цэнтры мяса. Гэтая страва і ёсць сапраўдны сярэднеазіяцкі плоў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

*ГАРАСКОП*
*1 – 7 ЛІСТАПАДА*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Павысіцца дзелавая актыўнасць, і вынікі не прымусяць сябе чакаць. Магчымае паступленне грошай. Нестандартнае рашэнне дазволіць вырашыць праблему, якая даўно надакучыла. Перыяд асабліва прыдатны для прадстаўнікоў сацыяльных прафесій.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
З упартасцю мужчын–Цяльцоў (або начальнікаў) трэба будзе змірыцца і ні ў якім выпадку ім не пярэчыць. Тым больш, яны будуць мець рацыю. Перагружанасць на рабоце можа прывесці да стрэсу.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Калі вы не звернеце самую пільную ўвагу на свой арганізм, ён проста "здыме з сябе ўсялякія абавязкі". У асабістым жыцці халасцякоў могуць адбыцца змяненні: вы са здзіўленнем знойдзеце побач даўно забытага партнёра.

**РАК (22.06–23.07)**
Ракі будуць хандрыць и даймаць навакольных няшчасным выглядам. Аднак асабліва спачуваць ім не варта: хутка яны наладзяць новую інтрыгу або любоўную авантуру. Вестка, атрыманая ад кагосьці здалёк, акажацца поўнай нечаканасцю.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Працягваецца перыяд перамен як у асабістым жыцці, так і па службовай лініі. Рамантычныя сустрэчы, спатканні і вячэры лепш планаваць у перыяд з 2.11 па 4.11: Львы будуць асабліва пяшчотныя з партнёршамі, а Львіцы – прыхільныя.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Заплануйце рашэнне самых складаных пытанняў на 3 лістапада – у гэты дзень вы пры найменшых намаганнях атрымаеце найлепшыя вынікі. Асаблівай увагі патрабуюць малодшыя члены сям'і. У мужчын–Дзеваў нарэшце праявіцца тайны пажар кахання.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Вы павінныя быць вельмі асцярожныя з усім, што звязана з перамяшчэннямі. Пазбягайце язды за рулём і пералётаў. У астатнім – час спакойны, нават ціха-мірны. Радасць прынясуць вам родныя: ці ідэальнымі паводзінамі, ці прыемным сюрпрызам.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Будзе шанц вырашыць даўні канфлікт асабістага характару. Удалымі будуць усе пачынанні, а знаёмствы гэтага перыяда могуць так станоўча паўплываць на ваш імідж, што рух ў кар'еры стане проста незваротны.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Добры настрой і ажыццяўленне даўніх задумак і планаў – вось дэвіз, пад якім пройдзе бліжэйшы перыяд. Не ўпускайце любой магчымасці пашырыць кола знаёмстваў, усе яны будуць небесперспектыўныя.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Добра, калі вы зможаце сабраць волю ў кулак і не будзеце звяртаць увагу на супраціўленне, а будзеце імкнуцца пераадолець яго. Не рабіце стаўку на калег і партнёраў, толькі ў адзіноце вы зможаце дабіцца поспеху.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Шчаслівы выпадак літаральна зваліцца вам на галаву. Аднак, калі гэта будуць шалёныя грошы, падзяліцеся з кім–небудзь. Мае быць паездка за мяжу, падрыхтоўка да яе.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Праблемы са здароўем, дзецьмі і партнёрамі зоймуць увесь час. Але, магчыма, варта звярнуць увагу на тое, што крыніцай стварэння гэтых праблемаў з'яўляецеся вы самі.

